658_632.qxd 11/25/2020 9:16 PM Page 1 (3,1)




# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 12(658)**
**Сьнежань 2020 г.**


## Беларускі пікнік у Цэнтральным Парку

У суботу 24 кастрычніка сёлета ў Цэнтральным Парку адбыўся беларускі пікнік, ладжаны групай "Беларусы ЗША. Разам лягчэй" супольна зь Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня". Месцам пікніку стаў Авечы Луг, дзе хапае месца для ўсіх, хто прыходзіць пабавіць час на прыродзе. Месца было пазначанае нацыянальнымі сьцягамі, якія было здалёк відаць.

Гэтым разам на пікнік прыйшло спора беларусаў. Галодныя і сасьмягшыя маглі пачаставацца прысмакамі і напоямі, што прынесьлі ўдзельнікі пікніку. Пысутныя людзі абменьваліся думкамі й навінамі пра падзеі на Бацькаўшчыне, пра надзвычайны ўздым грамадзкай актыўнасьці, а таксама пра падзеі у Амэрыцы. Людзі з прыемнасьцю знаёміліся, калегаваліся зь землякамі.

Вяла рэй кіраўнічка групы "Беларусы ЗША. Разам лягчэй" сп-ня Ганна Шарко. Яна прывітала ўсіх прысутных, падзякавала ўсім тым, хто прыходзіць на шматлікія акцыі салідарнасьці ў Нью-Ёрку і скрозь па ЗША, хто дапамагае сваім далярам у справе падтрымкі пацярпелых ад рэпрэсіяў у Беларусі. Сп-ня Ганна Шарко распавяла аб прайшоўшых акцыях і аб плянах на бліжэйшы час, аб зборы сродкаў на падтрымку пацярпелым і бастуючым і папярэдзіла пра магчымыя авантуры афэрыстаў у справе збору грошай. Ужо выкрытыя некалькі спробаў фіктыўных збораў для Беларусі, у тым ліку дзялкоў з Расеі.

Затым са словам пра Згуртаваньне "Пагоня" выступіў ягоны старшыня, сп. Віталь Зайка. Ён распавёў пра мэты і дзейнасьць арганізацыі, запрасіў знаёміцца з інфармацыяй на старонцы "Пагоні" ў фэйсбуку, паведаміў пра маючую адбыцца прэзэнтацыю альманаха "Беларус", якая традыцыйна праходзіць на адным са сходаў "Пагоні", але сёлета дзеля сытуацыі з вірусам усё можа быць па-іншаму. Сп. Зайка запрасіў прысутных узяць асобнікі інфармацыйнага бюлетэня арганізацыі "Весткі й Паведамленьні", а таксама календары і паведаміў, што неўзабаве будзе выдадзены новы каляндар на 2021 год.

Прайшла беларуская патрыятычная віктарына, удзельнікі якой атрымлівалі невялікія прызы за правільныя адказы на пытаньні. Затым усе жадаючыя мелі магчымасьць напісаць лісты да палітвязьняў, якія пасьля будуць перададзеныя адрасатам. Удзельнікі пікніку далучаліся таксама да гульняў і сьпеваў і сфатаграфаваліся разам на памяць. Усе дзякавалі арганізатарам імпрэзы за добра і цікава праведзены час сярод суайчыньнікаў.

***Віталь ЗАЙКА***



# Вайна супраць беларусаў, якую беларусам трэба перамагчы



Сытуацыя небясьпечная для Беларусі ўвесь час. Небясьпека ў тым, што палітычная барацьба за ўладу адбываецца паміж двума антыбеларускімі сіламі – аўтарытарным рэжымам Лукашэнкі і добра падрыхтаванай групоўкай Газпрама-ФСБ.

Беларуская нацыянальная палітыка і палітычныя сілы адсутнічаюць у гэтай барацьбе, заблякаваныя, ізаляваныя і вынішчаныя антыбеларускім рэжымам. Сытуацыя пагражала скласьціся не на карысьць Беларусі, калі б не народная электаральная рэвалюцыя, якая адпрэчыла пачатак краху дзяржавы і трымае становішча без разьвязкі да сёньня.

Пакуль доўжацца масавыя пратэсты, датуль існуе магчымасьць самаарганізацыі і стварэньня беларускай нацыянальнай палітычнай сілы. Ідэалягічная база тут каласальная – уся гісторыя і вопыт беларускага Адраджэньня. Праграмна-палітычная анова распрацавана яшчэ ў 2017 годзе (праграма “Вольная Беларусь”). Тым ня менш, трохмесячныя дэклярацыйныя спробы выпусьціць на паверхню беларускі палітычны рух Вольная Беларусь, які б узяў на сябе змаганьне за нацыянальную будучыню краіны, практычных вынікаў да гэтага часу не прынесьлі. Адна з прычынаў – грамадства яшчэ не сасьпела да нацыянальна-палітычнай самарганізацыі ў барацьбе за ўладу. Нацыянальныя палітыкі і асобы за гэты час не зьявіліся. Тым ня менш, грамадзкі рэсурс для беларускай палітыкі (асабліва пакуль трываюць масавыя пратэсты) застаецца.

Выхад у барацьбу арганізаванай беларускай палітычнай сілы (калі ён адбудзецца) у корані зьменіць становішча. Тады мы ўбачым, між іншым, палітычнае збліжэньне двух, цяпер варагуючых між сабой, прамаскоўскіх групаў, якія супраць нацыянальнага Адраджэньня. Але гэта Маскву не ўратуе, толькі спросьціць палітычны краявід і арыентацыю ў змаганьні.

На сёньняшні момант сытуацыя згоршала. Прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі, не дамогшыся агрэсіі з боку пратэстантаў, пачаў міліцэйска-вайсковую вайну супраць народа з ужываньнем зброі. Праглядваюцца прыкметы генацыду.

Адным са штуршкоў да эскаляцыі стаў правакацыйны “ўльтыматум” групоўкі Газпрама-ФСБ, падпісаны С. Ціханоўскай. Пра шкоду гэтай ультыматыўнай правакацыі я пісаў раней, калі пасьля зьмены пазыцыі Пуціна адносна тэрмінаў, дадзеных Лукашэнку на задушэньне пратэстаў, адразу прагучэла ў этэры слова “жостчэ”, і зьявіўся авантурны “ўльтыматум”, у якім уладзе Лукашэнкі быў вызначаны тэрмін існаваньня да 25-га кастрычніка, пасьля чаго быў заклік да ўсеагульнай забастоўкі.

Вызначэньне тэрміну існаваньня для рэжыму Лукашэнкі асобамі, якія ня маюць палітычнай сілы, выглядала анэкдатычна. Але галоўнае, што беларусы рэальна яшчэ не гатовыя да ўсеагульнага страйку ні арганізацыйна, ні матэрыяльна, ні духоўна. Патрэбен быў яшчэ час і праца.

Тым часам разбуральны зьмест ультыматыўнай афёры спрацаваў – выцягнуў на паверхню актыўных дзеячоў сярод рабочых і падставіў іх пад рэпрэсіі рэжыму. На шматтысячных прадпрыемствах адгукнуліся нешматлікія ініцыятары, арганізатары і энтузіясты страйку. Яны тут жа былі арыштаваныя альбо звольненыя з працы. Працоўныя калектывы ў большасьці не забаставалі. Магчымасьці страйку яшчэ больш зьменшыліся.

Сытуацыя прадэманстравала рэжыму негатовасьць і непадрыхтаванасьць задумы пра страйк і дазволіла кіруючай мафіі тут жа забраць ініцыятыву, узмацніць рэпрэсіі і вайну супраць народа.

Гэты ход агентуры, справакаваны ўльтыматумам, небясьпечны тым, што часова ініцыятыва перайшла ў рукі карнага рэжыму, і ён пачаў наступаць і забіваць.

Чарговая правакацыя групоўкі, якая называецца “плян народнага трыбунала”, яшчэ больш шкодная, чым першая. Тут прафанацыя сур'ёзнай ідэі БНС “Вольная Беларусь” аб Народным Трыбунале. Ідэя пададзена газпромаўскай групоўкай у карыкатурным выглядзе. Справа ня толькі ў бездаказнасьці і неадэкватнасьці, і нават не ў ахлакратычным уяўленьні пра судовае права, справа ў духу гэтага іхняга блытанага ліста, які штурхае людзей на агрэсію ў адказ супраць узброенай сілы рэжыму. Агрэсія прывяла б да крывавага пагрому грамадства. Гэта тое, чаго чакае цяпер ад Лукашэнкі Пуцін, вызначыўшы яму новы тэрмін для вырашэньня задачы задушэньня пратэстаў. У выніку можа быць альбо крэдытная ўзнагарода для Лукашэнкі, альбо верагодны сыход сатрапа (у залежнасьці ад разьвязкі агрэсіі рэжыму).

Складваецца ўражаньне, што чарговая правакацыйная заява групоўкі зноў карэлюецца з палітыкай “мудрага” Пуціна.

Ціханоўскую выкарыстоўваюць у якасьці мэдыюма, гуляючы на яе палітычнай цемнаце і несфармаванасьці нацыянальнай асобы. Нельга ня бачыць, што праект з Ціханоўскай да непрыстойнасьці фальшывы, але тым ня менш ён існуе, дзейнічае ў беларускай палітычнай пустаце, прыносіць шкоду і, напэўна, залічваецца як палітычнае дасягненьне маскоўскай агентуры. Але існаваньне гэтай зьявы дачаснае. Вобразна кажучы, да першых тактаў гімну “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

У сваіх рускамірскіх схільнасьцях групоўка ўжо і ня надта хаваецца. Нядаўна ў яе агентурным асяродзьдзі паявілася такая актыўная спадарыня Марыя Агафонава (па мужу – Навасельская). Гэтая Агафонава ў 2010 годзе скончыла расейскую дыпламатычную акадэмію пры МЗС Расеі і працавала ў лукашысцкай амбасадзе ў Маскве, а потым – у лукашысцкай амбасадзе ў Вільні. У газпрамаўскай групоўцы яна цікавіцца зборам і перасылкай сродкаў пацярпелым ад катаваньняў рэжыму беларусам (сродкамі, якія лукашысцкія банкі заблякавалі і сьпісалі з рахункаў людзей, гэта значыць – скралі).

Ёсьць іншыя намеры сумніўнай дзейнасьці. Нядаўна групоўка зацікавілася беларускай 30-хвіліннай перадачай на Віленскім тэлебачаньні. Гэта тая перадача, пра якую мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, яшчэ ў 1990 годзе дамовіліся са сьпікерам Сэйму Вітаўтам Ляндсбэргісам. Яна існуе па-беларуску па сёньняшні дзень. Групоўка Газпрама-ФСБ праз набліжаную асобу выступіла перад гарадзкой мэрыяй і тэлебачаньнем аб пераадрасаваньні ёй гэтай праграмы, дзе яны будуць вяшчаць па-расейску пра свае справы.

Улады Вільні гэтаму не пярэчаць, бо Вільня ўключылася ў гульню Эўразьвязу за дыялёг з Пуціным і Лукашэнкам аб Беларусі і гуляюцца ў “прэзыдэнцтва” Ціханоўскай.

Гэтая лявацкая эўрапалітыка, як ня дзіўна, выглядае тыповым лукашызмам, бо заснаваная на хлусьні з той розьніцай, што імкнецца перамагчы вялікую хлусьню рэжыму Лукашэнкі меншай хлусьнёй сваіх палітычных дэклярацый.

Амэрыканскі ўрад ім дакладна сфармуляваў, што ў выніку сфальшаваных выбараў і адсутнасьці доказаў галасаваньня ў Беларусі не абралі прэзыдэнта. Юрыдычна яго не існуе. Для вызначэньня прэзыдэнта патрэбныя новыя выбары. Але ў эўрабюракратаў свае задумы. Возяць жанчыну па сталіцах, называюць “прэзыдэнтам” і вымаўляюць пустазвонныя фразы.

Да групоўкі раптам паплылі людзі “ніхто і ні адкуль”, езьдзяць у Маскву ў якасьці нібыта беларускай “апазыцыі”,

***заканчэньне на наступнай бачыне***

# Вайна супраць беларусаў...

*заканчэньне з бачыны 2*

частуюцца кавай у Лубянцы, даюць інтэрвію супраць беларускай мовы, выступаюць за СНД, АДКБ, за "саюзную дзяржаву", "мытны саюз" – словам за ўвесь лукашызм, акрамя Лукашэнкі.

Сумленьня ў гэтых асобаў, напэўна, няма, як няма нічога беларускага ў сэрцы. Дарэчы, нават непрыхільная да беларушчыны Вольга Карач (якая цяпер за мяжой) аддала свайго сына вучыцца ў беларускую гімназію ў Вільні. Дзеці Ціханоўскай у беларускай гімназіі ня вучацца. Такія вось "невероятные" любіцелі беларускага народа.

Зыходзячы зь беларускага палітычнага сэнсу, гульню ў Ціханоўскую трэба б было хутчэй заканчваць. Толькі яно ўжо амаль немагчыма. Музыку заказала Масква, выконвае Эўропа разам з расейскай агентурай, а слухае і ўміляецца добры, разумны, культурны і, на жаль, палітычна не адукаваны беларус.

Маем вопыт з Лукашэнкам: тады, у 90-х, да адзежы яго цягнуліся, каб дакрануцца, як да сьвятога, добрыя беларусы (да гэтага хама, лотара, бандыта і мярзотніка).

Назіраючы цяперашні час, мы заўважаем, што лагодны масавы беларус у сваіх уяўленьнях пра палітыку і ўладу з тае пары (зь 90-х) амаль не зьмяніўся. Не заўважае рэальнасьці і стаіць за тое, што яму хочацца бачыць. Толькі цяпер ужо 26 гадоў існаваньня не атрымаецца, бо пры яшчэ адной маскоўскай сатрапіі краіны можа ня стаць. Але спадзяемся на лепшае.

Акупацыйны рэжым пачаў татальную тэрарыстычную вайну супраць беларусаў. Страляюць у людзей, кідаюць гранаты, карнікі ўрываюцца ў крамы і ў кватэры, б'юць і хапаюць людзей, арыштоўваюць тысячы ў дзень, катуюць у турме, калечаць і забіваюць у пастарунках. Недазволенага для хунты няма нічога перад задачай захаваньня прарасейскай улады. Сьмерць чалавека для іх – не перашкода, нішто сацыяльнае і нішто нацыянальнае ня мае для іх значэньня.

Сацыяльнай каштоўнасьцю акупацыйнага рэжыму ёсьць карнік, амонавец, забойца, якому ўсё дазволена. Гэта абазначае, што Лукашэнка і гэбісты намераны вынішчыць усё, што не адпавядае іхняй сацыяльнай каштоўнасьці. Тут іхняя апора – на зброю і карныя аддзелы.

Разумным людзям ня трэба зьдзіўляцца ўзроўню мазгоў рэжымнай намэнклятуры. Адбылася сэлекцыя кадраў антынароднай улады пад Лукашэнку. Тут рэчаіснасьць, зь якой вынікаюць дзеяньні.

Да гэтага трэба адносіцца сур'ёзна, бо людзі звычайна ня хочуць верыць у магчымасьць таго, што не адпавядае агульнапрызнаным нормам маралі, розуму і культуры.

Для Лукашэнкі характэрна нетрыманьне псыхапатычных паняцьцяў, думак і слоў, якія яго апаноўваюць. Ён выбалтвае свае "ідэі-фікс". Найбольш злавеснай паталёгіяй, што яго апанавала, гэта "паўтарыць, як у Аньдзіжане" і адпомсьціць, расстраляць беларускі народ. Ідэя яго зьядае, і пры магчымасьці ён яе захоча рэалізаваць. У прынцыпе, ён гатовы быў бы расстраляць усю нацыю, ці хоць палову і замяніць "народзец" іншымі людзьмі. Такое ўжо было ня раз у маскоўскай гістрыі і ў сьвеце камунізму-сацыялізму. У 30-х гадах расейцы-бальшавікі забілі ў Беларусі чвэрць насельніцтва. Са 104 вышэйшых дзяржаўных кіраўнікоў-адміністратараў расстралялі 102 асобы. На іх месцы прыслалі з Расеі так званых "выдвіжэнцаў". Яны тут і кіравалі. (Я ўжо не кажу пра Пол-Пота, маскоўскага цара Івана IV, "таварыша" Сталіна, галакост і т. п.)

Генацыд беларусаў адбываецца здаўна. Зьмяняецца толькі яго характар і фазы.

Цяпер ва ўмовах антынароднай вайны трэба працягваць мірныя масавыя пратэсты. Але абавязкова павінны быць створаныя грамадзкія (народныя) дружыны аховы (пра што кажацца ўжо даўно), якія паспрыяюць абароне людзей і каардынацыі шэсьця па-за Інтэрнэтам і тэлефонам, бо Сеціва і электронную сувязь кантралююць спэцслужбы рэжыму.

Мірны масавы пратэст народа супраць акупацыйнага гвалту і дэманстрацыя нацыянальных каштоўнасьцяў вельмі патрэбныя беларускаму грамадству дзеля яго нацыянальнага разьвіцьця і кансалідацыі ў змаганьні за волю.

Пакуль што беларусы выходзяць у асноўным пратэставаць. Пануе дух салідарнасьці і пратэсту. Тое трэба ўлічваць. Тыя, хто сасьпелі для змаганьня за нацыянальныя ідэалы вольнай Беларусі, мусілі б рыхтавацца да партызанскай барацьбы. Яна амаль непазьбежная.

Наступная задача – падрыхтоўка да ўсеагульнага страйку, якая вымагае пэўных правілаў і галоўнае – разумных энтузіястаў.

Ёсьць шмат народных прапановаў адносна паводзінаў пратэстантаў. Была, між іншым, парада перастаць уцякаць ад карнікаў (пасьпяховы мэтад польскай "Салідарнасьці"). Тут ёсьць рацыянальны зьмест – тармажэньне агрэсіі нападнікаў і дэманстрацыя духоўнай перавагі.

Пасьля забойства мастака Рамана Бандарэнкі ў некаторых людзей узьніклі сумненьні ў эфэктыўнасьці мірных дэманстрацыяў. Тым часам яны вельмі эфэктыўныя, бо перарабляюць грамадзтва на вышэйшы ўзровень, ствараюць грунт для адраджэньня Беларускай нацыі. Нездарма акупацыйны рэжым кінуў усе сілы на здушэньне пратэсту і распачаў тэрарыстычную вайну супраць народа.

Такім чынам – цяжка, але ёсьць сэнс. Адступаць нельга. Тое, што робяць нашыя людзі – гэта псыхічны наступ на рэжымную хунту, дэманстрацыя духоўнай сілы, якая выбівае ў непрыяцеля грунт пад паразітызмам сацыяльнага існаваньня.

Цяпер (і ўвесь час) захаваць уладу ўзурпатара ў Беларусі і ягоны рэжым зацікаўлена толькі Масква. Але памятайма, што гэтая Масква і ёсьць галоўным ворагам Беларусі і беларускай свабоды.

*19 лістапада 2020 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**




## Шаноўныя сябры!

Разам са сьнежаньскім нумарам нашага бюлетэня ўсе падпісчыкі атрымаюць таксама **каляндар Згуртаваньня "Пагоня" на 2021 год**. Тыя хто захоча мець больш чым адзін асобнік календара могуць яго замовіць на сайце ***e-krama.com*.** Сёлета ўвесь прыбытак ад продажу календароў пойдзе на дапамогу ахвярам рэпрэсіяў у Беларусі.

Кошт аднаго календара разам з дасылкаю ў межах ЗША **$20**, з дасылкаю ў Канаду **$22**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$24**.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski/ P. O. Box 3225/ Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя **Marat Klakotski**.

# Слоўнік нацыянальнай ідэі. Т - як трасянка

Мова памірае не тады, калі на ёй не распрацоўваюцца матэматычна-фізычныя тэрміны або не вядзецца кантроль паветранай прасторы (хоць і тады таксама), а тады калі ў ёй адсутнічае сьмешны гумар. Прыгадаеце, калі апошні раз чулі дасьціпныя жарты на беларускай мове, аўтэнтычна забаўны выступ беларускага кабарэ, нязмушана сьмешную перадачу ў беларускамоўных залежных і паіншаму залежных сродках масавай інфармацыі? Не, ня чулі. Не, ня бачылі. А прыгадайце, як да сьлёз сьмешна бывае ў кумпаніі простага народу. Які тонкі ў нашых людзей гумар, досьціп, іронія, адчуваньне пародыі і сарказму. Я ўсё сваё дзяцінства, праведзенае ў беларускамоўнай вёсцы, прыгадваю як няспынную паласу рогату і сьмеху. І дзе падзеўся гэты гумар?

У беларускамоўнай інтэлігенцыі ўсе жарты спрэс на трасянцы. Трасянка асноўная мова зносінаў тусовачных пісьменьнікаў, парулярных музыкантаў і нават людзей, якія займаюцца захаваньнем фальклёру. Якую беларускую праграму не ўключы – усюды сьмяюцца са сваіх жа людзей, якія яшчэ не авалодалі чыстай расейскай. Так-так. Трасяначны сьмех – гэта сьмех зь недарасейскай, а не зь недабеларускай мовы. Гэта сьмех зь мястэчак і вёсак – дзе стагодзьдзямі беражліва пад націскам розных адміністрацыяў захоўвалі родную мову. Гэта высьмейваньне беларускіх гукаў "г" і "ч". Гэта парадыраваньне фанэтыкі, якой ужо ня знойдзеш нават у беларускамоўным асяродзьдзі ў горадзе. Гэта цкаваньне парэштак беларускасьці сярод простых людзей.

Аднак, у першую чаргу, трасяначны гумар беларускамоўных гэта нямоглась. Няўменьне стварыць сьмешны сюжэт на беларускай мове. І гэта няьсмешна. Гэта страшна.

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Выйшаў у сьвет чарговы выпуск за 2020 год літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа




## "БЕЛАРУС"

Аўтары і фундатары выданьня атрымаюць нумар самымі першымі, а іншых нашых прыхільнікаў просім падтрымаць аўтараў і выдаўцоў сваімі замовамі і зацікаўленасьцю. Нагадваем, што альманах друкуецца толькі дзякуючы падтрымцы чытачоў і прыхільнікаў.

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$18**, з дасылкаю ў Канаду, Вялікабрытанію і Францыю **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**.

Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца **Marat Klakotski**.

Замовіць новы нумар, як і ўсе папярэднія, можна будзе і праз інтэрнэт, наведаўшы старонку ***e-krama.com***.

Калі ўлады горада Нью-Ёрка здымуць абмежаваньні на правядзеньне масавых сходаў, абавязкова адбудзецца прэзэнтацыя новага нумару "Беларуса" на адным са сходаў Згуртаваньня "Пагоня".

Калі ласка, сачыце за абвесткамі.

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**В. Трыгубовіч ............30**

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***

*Падпіску таксама можна афарміць на сайце* ***www.e-krama.com***